№ 2 (93) 2012

# абажур

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS






**ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!**



# Арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» рэзка асуджае рашэнне беларускіх уладаў закрыць межы краіны для журналістаў.

Як адзначае арганізацыя, за апошнія некалькі дзён шэраг беларускіх незалежных журналістаў не змаглі паехаць у суседнія краіны Еўрапейскага Саюза, у той час як прынамсі аднаму журналісту з краіны ЕС было адмоўлена ў наведванні Беларусі.

«Гэтыя незаконныя абмежаванні парушаюць Канстытуцыю Беларусі і сур'ёзна перашкаджаюць працы журналістаў, — пішуць «Рэпарцёры». — Улады павінны зняць гэтую адвольную забарону і зноў дазволіць незалежным журналістам выязджаць за мяжу».

*Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»*

абажур
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS
ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 2 (93) 2012 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота***
Photo.bymedia.net

***На вокладцы –***
фота Юліі Дарашкевіч,
Аляксандра Лойкі (апошняя вокладка)

Выданне зарэгістравана
ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь,
рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 12.04.2012 г.
Дата выхаду ____________2012 г.
Фармат 60x84 / 8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня СТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com

# Палітычная тэма: простая, як амёба?



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,*
*кіраўнік аналітычных праектаў інфармацыйнай кампаніі БелаПАН*

Палітычнае жыццё ў Беларусі — збольшага прымітыўнае. Кіроўная вярхоўка за 17 гадоў пашчыравала, каб звесці яго амаль што да амёбнага ўзроўню. У медыях жа палітычная тэма адлюстроўваецца яшчэ болей убога. І гэта ўжо наша з вамі, журналісцкая, «заслуга». Аднак лепшыя ўзоры айчыннай палітычнай журналістыкі даводзяць: і пры «праклятым рэжыме» можна пісаць моцна, прыгожа, прафесійна. І ёсць пра што — трэба толькі бачыць. Я выношу за дужкі палітычную тэматыку ў дзяржаўных медыях. Няма аб чым казаць. Інфа там казённая, аналітыкай жа і не пахне. Бо якія могуць быць развагі, калі нельга адхіляцца ад генеральнай лініі? Толькі імітацыя. Аднак і недзяржаўныя СМІ, за рэдкім выключэннем, падаюць унутраную палітыку шаблонна, аднастайна, шэра.

## Цягаць каштаны з агню — улом

Пачнём з таго, што мала якія рэсурсы маюць рэпарцёраў, якія спецыялізуюцца на палітычнай тэматыцы і адмыслова заточаныя пад тое, каб штодня здабываць свежую інфу (забягаючы наперад, зазначым: палітычны аналітык — яшчэ больш рэдкі выкапень). У многіх рэдакцыях філасофія такая: няма дурняў цягаць каштаны з агню, хай іншыя лезуць пад дручкі ды корпаюцца ў хітраспляценнях унутрыапазіцыйных інтрыг. А мы потым спрытна ўсё скопіпасцім.

У выніку, хаця сайтаў і газет нямала, сапраўдных навін — кот наплакаў. Пад рознымі загалоўкамі, з трохі перайначанымі лідамі тыражуецца жменька паведамленняў, крыніцы якіх — БелаПАН, беларуская служба «Радыё Свабода» ды яшчэ колькі там рэсурсаў.

Прычым перайначванне тэкстаў навін таксама выклікае шэраг пытанняў, датычных як прафесійнай этыкі, так і аўтарскага права. Асобныя баявыя сайты лепяць да чужой інфы тэрмаядзерныя загалоўкі, замяняюць «Палату прадстаўнікоў» на «палатку», «кіраўніка дзяржавы» — на «дыктатара» ды рэдагуюць рэшту тэксту ў такім жа разухабістым стылі. Заточваюць, так бы мовіць, пад барацьбу з «крывавым рэжымам».

Канечне, ваша права — выказваць тую ці іншую палітычную пазіцыю. Але рабіце гэта, калі ласка, за кошт свайго кантэнту, а не цераз перадзіранне з такой вось разбойніцкай праўкай. Згадваю выпадак, калі карэспандэнту БелаПАН пагражалі, што адбяруць акрэдытацыю пры парламенце: а чаго ты нас «палаткай» абзываеш? І небарака мусіў даводзіць, што ён не вярблюд, што гэта «творчая праўка» асобных карыстальнікаў кантэнту.

Кантэнт, дарэчы, часцяком банальна крадуць, «эканомячы» на падпісцы. Не ставяць спасылкі на крыніцы (або топяць іх глыбока ў тэксце), выкідаюць прозвішчы аўтараў. Маскуюць

пад нібыта ўласны прадукт, каб не кідалася ў вочы, што самі тэкстаў практычна не генеруюць. Заўважце: людзі, што бэсцяць рэжым, у прыватнасці, за прававы нігілізм, самі плююць на аўтарскае права, не кажучы ўжо пра этыку ўзаемадачыненняў у нашым прафесійным цэху.

## У палоне біпалярнай схемы

Рэдактары і журналісты шэрагу недзяржаўных СМІ інерцыйна трымаюць у галаве тую біпалярную схему «ўлада — апазіцыя», якая была актуальная хіба што ў 1990-х гадах, калі альтэрнатыву яшчэ не паспелі задушыць, калі Вярхоўны Савет выкочваў імпічмент маладому прэзідэнту, а шэсці пад бел-чырвона-белымі сцягамі раз-пораз збіралі ў сталіцы дзясяткі тысяч чалавек.

З тае пары рэжым маргіналізаваў партыйную апазіцыю, значна гусцей нашпігаваў яе сваімі агентамі. Сёння яна, аслабленая ды перасвараная, фактычна перастала быць гульцом на ўнутраным полі. Разам з тым, насуперак агрэсіўнаму вонкаваму асяроддзю, умацаваліся парасткі грамадзянскай супольнасці: паўсталі цікавыя структуры і аб'яднанні, у трэцім сектары ідуць напружаныя інтэлектуальныя працэсы, разгортваецца някідкая штодзённая праца. Але грамадзянская супольнасць — у цені журналісцкай увагі, бо там меней скандальных інфармацыйных нагодаў; у канцэптуальных напрацоўках трэцяга сектара трэба разбірацца, а гэта, зноў жа, пісаку ўлом.

Едзем далей. Раз за разам падкідае рэбусы феномен масавай свядомасці беларусаў. У прыватнасці, рэзкае зніжэнне рэйтынгу афіцыйнага кіраўніка ў выніку леташняга фінансавага крызісу не пацягнула за сабой росту папулярнасці апазіцыйных партый і лідараў. Крызіс не прывёў да выспявання тых гронак гневу, на якія спадзяваліся стратэгі з лагера апанентаў рэжыму. А калі б і пачаліся масавыя хваляванні, то вялікае пытанне, ці асядлалі б хвалю дзеячы тытульнай апазіцыі.



Усе гэтыя няпростыя працэсы ды з'явы вымагаюць асэнсавання. Але назаўжды засвоеная прымітыўная біпалярная схема зноў і зноў штурхае аўтараў палітычных публікацый выбудоўваць штучны плоскі сюжэт з дзвюма восямі каардынат: вось так робіць улада, вось гэта заяўляе ў адказ (бо нешта рабіць ужо амаль не здатная) апазіцыя...

Такое ўражанне, што аўтары зусім не цікавяцца актуальнымі даследаваннямі аналітычных цэнтраў кшталту BISS, сацыялагічных інстытуцый накшталт НІСЭПД. Між тым адпаведныя матэрыялы даюць багатую спажыву для роздуму. Аднак у аналітыкаў ды сацыёлагаў болей шанцаў не абудзіць роздум, а патрапіць пад раздачу, калі нейкія іх высновы не ўкладаюцца ў пракрустаў ложак барыкаднай ідэалогіі. Напрыклад, патрапілі пад агонь палітолагі, што «не так» ацанілі заходнюю палітыку санкцый, а сацыёлагаў НІСЭПД дзяўблі за тое, што, згодна з іх лічбамі, Лукашэнка ўсё ж набраў у снежні 2010 года болей за 50%.

*«Прысутнічае барыкаднае мысленне: гэта нашы, а гэта не нашы, гэтых можна хваліць, а гэтых няможна... Аб'ектывісцкі падыход, які ўсё ж патрэбны айчыннаму чытачу, сустракаецца ў лічаных выданнях»,* — адзначыў у гутарцы з аўтарам гэтых радкоў палітычны аналітык і медыйны эксперт Паўлюк Быкоўскі.




## З палітолагаў робяць астролагаў

На палітыку ў рэдакцыях часам саджаюць зусім зялёных навабранцаў ці выпадковых людзей: учора пра асенізацыю пісаў, сёння — скляпай нешта пра выбары ў Палату прадстаўнікоў! Каб задаць эксперту глыбокія пытанні, трэба мінімальна падсякаць палітычную сітуацыю, уяўляць варыянты яе развіцця. А калі ў галаве туман, то і пытанні адпаведныя, прымітыўныя. Палітолагам прапануюць ролю астролагаў. Як вы думаеце, на колькі працэнтаў дэвальвуюць чарговым разам




рубель? Ці выпусціць Лукашэнка палітвязняў да такой і такой даты? А колькі і каго канкрэтна? На болей канцэптуальныя пытанні нестае фантазіі ды ведаў. А паколькі палітыка ў краіне імпульсіўная, цяжкапрадказальная, завязаная на настрой аднаго чалавека, то ў выніку старонкі выданняў і сайтаў запаланяе гаданне на кававай гушчы.

Пры гэтым эксперт мог бы капнуць праблему значна глыбей, калі б яго раскруцілі на размову. Але ж — якое пытанне, такі і адказ. Добра яшчэ, калі ў выніку нічога не пераблытаюць. Бо часта занатоўваюць думкі суразмоўцы прыблізна, са скаротамі, а потым расшыфроўваюць яшчэ болей неахайна. У выніку эксперт хапаецца за галаву: якім жа ідыётам яго выставілі, колькі наблыталі, як перакруцілі сэнс! Аўтар гэтых радкоў, якому часта даводзіцца выступаць і ў амплуа каментатара, таксама не аднойчы пачуваўся няёмка праз тое, што яму прыпісвалі. Гаворыш, напрыклад, пра рашэнне Рады міністраў замежных спраў Еўразвяза, а на нейкім сайце ад твайго імя ідзе: «Еўрадэпутаты ў Бруселі ўвялі новыя санкцыі». Для дзяўчынкі, што паспешліва брала інтэрв’ю праз тэлефон, відаць, няма вялікай розніцы паміж міністрамі і еўрапарламентарамі, але ж у выніку многія чытачы вырашаць, што гэта пан каментатар такая доўбня...

Але справа не толькі ў ляпах. Бяда яшчэ і ў тым, што само па сабе кола аблюбаваных журналістамі фігур з экспертнай супольнасці вельмі вузкае. Іх торгаюць з любой нагоды і, дастаўшы праз мабільнік за вячэрай ці пад душам, патрабуюць імгненных геніяльных экспромтаў па ўсіх тэмах сучаснасці. Зручней патэлефанаваць безадмоўнаму знаёмцу, чым пашыраць спіс экспертаў, шукаць падыход да новых, нераскручаных персон. У выніку на ўсіх сайтах — адны і тыя ж каментатары, якія непазбежна паўтараюцца. І тут трэба не іх упікаць. Ну не можа чалавек ведаць пра ўсё, дзесяць разоў на дзень перафармулёўваць свае думкі і тым болей — цягам паўгадзіны мяняць меркаванне ў нейкім пытанні. Тут трэба сароміць тых журналістаў, што ідуць па шляху найменшага супраціву.

*«Журналісты рэдка звяртаюцца да рэальных экспертаў, глыбокіх знаўцаў таго ці іншага пытання»*, — мяркуе Паўлюк Быкоўскі. У выніку, кажа мой суразмоўца, *«палітыка як з’ява, нібыта зразумелая ўсім, нярэдка каментуецца людзьмі, якія не разумеюць яе па-сапраўднаму»*. Увогуле ж голай палітыкі не бывае. Так, каментаванне выбарчага працэсу, напрыклад, вымагае добрага ведання не толькі палітычных рэалій, але і адпаведнага заканадаўства, падкрэслівае аналітык.

Яшчэ адзін момант прафанацыі — гэта калі эксперта цынічна падбіраюць паводле прынцыпу «вось гэты скажа тое, што мне трэба». Бо ўжо маецца каркас матэрыялу і нестае толькі пацвярджэння нейкай тэзы вуснамі аналітыка. Лягчэй звярнуцца да персоны з апрыёры вядомым поглядам на адпаведную праблему, чым рызыкаваць, закідаючы пытанне суразмоўцу, які можа пагнаць не ў той стэп. Бо што тады рабіць — перайначваць ужо амаль гатовы сюжэт? А рэдактар жа і так пагражае адарваць ногі за спазненне... Так што зноў — выратавальны «званок сябру», які адкаментуе ў належным ключы, без сюрпрызаў.



Бывае, што суразмоўцу фактычна падштурхоўваюць да патрэбнага адказу тэндэнцыйнымі, акцэнтаванымі пытаннямі кшталту: «Вы ж не будзеце спрачацца з думкай, што гэта чарговы абуральны крок уладаў, які…» і г. д.

## Прапаганда наадварот

І вось тут мы падыходзім да тонкай мяжы паміж аналітыкай і прапагандай. Незалежныя журналісты звыкла клеяць ярлык прапагандыстаў на ідэалагічную абслугу ўлады, але самі нярэдка збіваюцца ў тую ж каляіну, выкарыстоўваючы такі ж заганны арсенал прыёмаў. Сутнасць у тым, што змест матэрыялу падганяецца пад загадзя вядомы адказ.



Натуральна, ніхто не аспрэчвае права аўтара, выдання на ўласную пазіцыю. Але прымітыўнае накіданне лозунгаў-ідэфіксаў замест сумленнага даследавання праблемы — вось што кіслатой раз’ядае прафесійныя прынцыпы. Так, у нашым расколатым грамадстве цяжка быць па-над схваткай, але на нейкай стадыі варта выбіраць: або вы палітычныя байцы, або ўсё ж такі журналісты. Сядзець на двух зэдліках — рэч няўдзячная.

На думку Паўлюка Быкоўскага, адна з праблем як дзяржаўных, так і недзяржаўных медыяў палягае ў тым, што часта ў публікацыях няма выразнай мяжы між навіной і каментаром. Пры тым што гэта канон для заходняй журналістыкі. *«Мы ж часта чытаем матэрыялы, якія адначасна ёсць і навіной, і каментаром, і нейкім эсэ, і прысудам»*, — зазначае мой суразмоўца. Хаця недзяржаўныя СМІ болей прафесійныя, аднак увогуле *«беларуская журналістыка мае вялікую схільнасць да прапаганды»*, рэзюмуе Быкоўскі.

Дадамо: за брэндамі шэрагу недзяржаўных СМІ тырчаць вушы палітычнай ангажаванасці. Іншым разам яна не ўтойваецца, але часцей маскуецца. Хочацца і незалежнымі выглядаць, і на піяры пэўных асоб ці структур дывідэнды атрымаць. Асабліва адчуваецца гэта падчас выбарчых кампаній. Тады аднаго з апазіцыйных кандыдатаў нейкае выданне пазіцыянуе як розум, гонар і сумленне нашай эпохі, астатніх жа падае купкай лузераў.

Часта на старонкі выданняў вылазяць асабістыя сімпатыі-антыпатыі рэдактараў. Не складуцца дачыненні з нейкім палітыкам — і ён становіцца мішэнню. Што б ні заявіў, што б ні зрабіў — выстаўляць клоўнам.

А можна прыперці да сценкі пытаннем кшталту: «Ці даўно вы асабіста раздавалі ўлёткі ля прахадной МАЗа?» Хоць зразумела, што ў сённяшніх умовах такая спроба ўзняць пралетарыяў на рэвалюцыю будзе доўжыцца максімум пяць хвілін. Потым — пастарунак і нары.

Але аналізаваць глыбінныя працэсы, глядзець у корань: чаму народ, з якога віюць вяроўкі, трывае і не адгукаецца на заклікі да дэмакратыі; ці можа быць увогуле моцная стратэгія ў апазіцыі ва ўмовах дыктатуры, — на гэта хвосткім аўтарам ды выданням бракуе ахвоты або інтэлектуальнага пораху.

Аналіз падмяняецца хаатычнай, але імпэтнай стралянінай па ўлюбёных мішэнях — абагуленай уладзе ці абагуленай апазіцыі. Няма нюансаў і глыбіні, няма дыялектычнага падыходу да асэнсавання рэчаіснасці. Няма ўсведамлення, што праблемы Беларусі не зводзяцца да прэзідэнта, што яны сядзяць і ў кожным з нас.

Нарэшце, матэрыялам на палітычную тэматыку катастрафічна нестае густоўнай падачы, выразнага арыгінальнага стылю. Яны пярэсцяць фразамі-клішэ. Зразумела, нашы палітыкі, за рэдкім выключэннем, не Цыцэроны і збольшага генеруюць трафарэтныя банальнасці. Але ж ты які-ніякі пісака, паварушы глуздамі, каб прывабна ўпакаваць медыйны прадукт! Дай хвосткі загаловак, напішы таленавіты лід-кручок, сфармулюй праблему ці калізію інтрыгоўна, нармальнай чалавечай мовай.

Аднак калі гэта і спрабуюць зрабіць, то раз-пораз скочваюцца ў жаўцізну з выкарыстаннем пошласці або крымінальнага слэнгу. І тады з’яўляюцца перлы кшталту загалоўка: «Владимир Некляев «настучал» на Рубинова в прокуратуру». Вербальная адвязанасць афіцыйных кіраўнікоў краіны, пэўна, зусім размыла арыенціры, якую лексіку пры характарыстыцы палітычных з’яў ужываць дапушчальна, а якую — не варта.

Я добра ведаю ўсе цяжкасці незалежнай прэсы: малыя штаты і заробкі, «ад вінта» пры спробах атрымаць інфу, дамоклаў меч рэпрэсій… Гэта падштурхоўвае частку калег вызнаваць прынцып «вайна ўсё спіша». І так неўпрыкмет пачынае весці рэй грубае рамесніцтва.

Журналістыку, як і палітыку, многія ўвогуле лічаць апрыёры цынічнымі занияткамі. Аднак журналіст, калі ён прэтэндуе на профі, мусіць штодзень абвяргаць гэты стэрэатып — ва ўсякім разе, наконт сваёй справы.

# На калінавым мосьце ўзнаўленьня



Антаніна ХАТЭНКА

## *Усё ў сьвеце ўжо здаралася, але ўсё зьмяняецца…*

У далёкай старажытнасьці Новы год сустракалі часам Вялікадня, калі ўсё жывое аднаўлялася й набірала дынамічны рытм разьвіцьця. Выдатны наш паэт Рыгор Барадулін назваў гэтую пару Вялікіх дзён — ад Чыстага Чацьвярга да Купальля — ёмкім народным выразам «рунець-красавацьналівацца». Дык ля самай брамкі, за якою ўзыходзіць рунь новага жыцьцёвага цыклю, мы ўсе стаім вось цяпер, калі вершыцца наймагічнейшая дзея ў Сусьвеце — зь веснавога раўнадзеньня пачаўся Ўзыход эвалюцыйнага пазнаньня, зьдзяйсьненьня й дасканаленьня. Засяваньня заўтрасьці, закладаньня падмурку наступных падзей і адкрыцьцяў, раскрыльваньня Духу да новых азораньняў і перамог. Але што адбываецца ў цянётах людзкога сьведамленьня сьвету й як тчэцца наша супольнасьць з матухнай-прыродай, зь якой ствараем разам Жыцьцё Вечнае, не заўжды магчыма ўразумець. Хіба даверыцца сабе самім і, адхінуўшы фіранку на вакне Традыцыі, паспрабаваць расчытваць заціхлыя пісьмёны даўнасьці…

### Кужэльная Веда пачатку

На калінавым гнуткім мастку, што пралёг ад учора да заўтра, ад нетраў да ўзвышша, ад бачнага да ўтаемненага, нібыта на вясёлцы, перакінутай з воблакаў у зямныя воды, супыніўся пражыты, прамінулы год. Зьвеставальна-прышэсна ўзьнялося на Сьвятую гару ўрачыстае сьвяціла — і… расьсьветлена распачаўся новы віток колакручэньня. Папраўдзе ж увесну разнасьцежваецца навонкі дзіва дзівоснае — аднаўленьне зямное цягі да пладненьня й красаваньня, да ўРАДжайнасьці. Чутныя ў тым РАД, і розгалас пра сівога бога Раду, і радасьць, і рада, і падказка пра сустрэчу з душамі памерлых — Радаўніцу, і пазнака ў хадзе да мітычнай гары Радагошчы (Радагосьця). Занатавана ў тым тайнапісе веснавых заклікальных абрадаў нейкая вельмі істотная для чалавека і ўсяго плянэтарнага супольля шчырая праўда — пра надыход навагодзьдзя.

Ды ў вірах штодзённых клопатаў, набыткаў і страт мы не прыкмячаем почасту, як зьяўляецца харобры герой і павяртае ўсё зь цемры да сьвятла, з застыгласьці ў рух, з халадэчы ў цяплынь, са сну ў чуйнаваньне. А між тым герой гэты — усяленская сіла векавечнага кругабегу — сілкуецца зьлёгку й з нашае штодзённае жыткі: з нашых думак, памкненьняў і давераў. Нездарма ж старая казка апавядае, як пайшоў маленькі Вой сьвятла (удовін сын) ратаваць сьвет ад лютага Цмока, заглынулага сонца, месяц і зоркі й пасеялага змрок на зямлі. І адолеў-такі харобрац ліхую цямрэчу, узьняўшы на нябёсы збавенчае Сьвяціла.

Кожная рыска гэтай прадаўняй містэрыі мае свае ключы-разгадкі: Цмок сямі-, дзевяці- альбо дванаццацігаловы — тое непазьбежны ніводнай жывой істотай і ніводным зарганізаваным супольлем шлях пераўзнаўленьня, што ахоплівае дзевяць часавых адрэзкаў (дзён, месяцаў, гадоў) Вялікай пераменнасьці, праз пагібель-адпрэчаньне старога й аджылага. Так яно зазвычай і здараецца: празь сем, а затым дзевяць зьяў Быцьця нам дадзена спазнаваць сутнасьць рэчаў зьсярэдзіны й звонку сябе, каб вызвольна, збавіўшыся ад заскарузлых стэрэатыпаў і звычак, акурат патрапіць у зоркавы рытм дванаццаціпрыступкавага пераўвасабленьня.

Нездарма ж кажуць у народзе, што здабытая хата адно па сямі гадох пабытаваньня ў ёй нарэшце ператвараецца ва ўласнасьць, і гаспадар набывае новы паўнавартасны статус валадара. А мэдыкі болей не адмаўляюць доказнага ўжо факту, што кожныя сем гадоў у нашых целах цалкам зьмяняецца, абнаўляецца кроў. Астралёгія ж спакон дараджвала прыслухоўвацца да дзевяцігадовых цыкляў, якія валадараць у людзкіх лёсах. І насамрэч кожныя дзевяць гадоў, нібы мэтраном, «адлічваюць» павароткі нашых жыцьцяў: састарваюць і распадаюцца альбо ўзыходзяць на

сэнсава новы ўзровень міжасабовыя стасункі, адбываюцца кар'ерныя пераломы й лёсавызначальныя сустрэчы...

Бо ўсё жывое на гэтай плянэце ўзаемазамкнёна ўлучана ў сьветлавы сонцазваротны лад, што жывіць і поўніць неадольнай магутай Вечнасьць. Усё адпачатна прадугледжвае пэрыяды насьпяваньня, а затым пераадоленьня рэзруху дзеля сягненьня самім Быцьцём іншай, больш высокай, эвалюцыйнай прыступкі. А таму Цмок-сьветапаглынальнік гэтак жа запатрабаваны самой касьмічнай Зладнасьцю, як і геройратавальнік, ад сутыкненьня якіх і магутнага разраду ў прасторы ўчыняюцца найвялікшыя Перамены, скачкі разьвіцьця й асэнсаваньня.

Прапрадзед абярожна туліў за пазухай кужэльную Веду пра сябе й прыроду, а таму сустракаў і Цмока — увасабленьне статыкі-пасівуцемры-зруйнаваньня, завяршэньня цыклю, і Збаўцу — пачатак сьвятла-дынамікі-актыўнасьцістварэньня, высяваньня зерня-памяці аднолькава ўдзячліва, адважна й мудра. Бо, ведама ж, нішто ніадкуль ня возьмецца й не адужае развою, пакуль не адбудзецца разбурэньня, раскладаньня на першаэлемэнты нейкай адпачатнай матэрыі й пакуль яна зноўку ня зробіцца цалкавітай, падатлівай, пругкай, каб прыняць насеньне й высьпеліць наступны вíток Узыходу.

Усе мы нязьменна ў дарозе — на Сусьветнай




лесьвіцы, што акурат, як той містычны калінавы мост, завісла выгінаецца ў Сусьвеце тонкім прадзівам нашых пошукаў і згуб, патрабуючы мужных рашэньняў ды мудрых учынкаў. Каб хапіла моцы дайсьці да кропкі канфлікту энэргій, не збаяцца й выйсьці на двубой. А затым узабрацца нарэшце пераможна на Гару, заглыбляючыся тымчасова і ў самае прадоньне неўміручай існасьці. І ўзысьці, як жыта, з дайнае нерушы, працяць шчыльную тканку забыцьця (скуль я ўзяўся й куды сьпяшаю) ды ўзьняцца на дыбачкі — да самага Таемства.

Але, каб усё нястомна паўтаралася й выносіла Жыцьцё шторазу ў Нязьведанасьць, гатовую да акту Тварэньня, і каб чалавека ня скінулі ў прорву зацятай барацьбы новыя высокія вібрацыі, трэба навучацца трымаць рытм (быццам у танцы), трэба ўчуць токі, што вірують наскрозна зь цёплага чэрава мінуласьці празь цьвёрды камель цяпершчыны да ўскрыленай кроны будучыні. Трэба (і слова ж гэтае якраз азначае здольнасьць аддаваць, ускладаць Жыцьцю трэбы!) тут, у камлі, дзе мы ёсьць цэнтрам спаміж папярэднікаў і наступнікаў, напоўна выявіць сябе як вяршэньніка ўласнае долі й уплывовую часьціну Цэласьці, якая няспынна зьмяняецца й дасканаліцца, нават праз упады й прапады, праз катастрофы й глябальныя супрацівы.

## Карані й кроны Роду

Божае Дрэва, Лесьвіца, Гара — унівэрсальныя мадэлі сьветазбудовы й нашага існаваньня спасярод бязьмежнага акіяну касьмічных плянаў, зрухаў і пэрспэктыў. І кожны з гэтых вобразаў ёсьць выразным адбіткам тае правечнае мудроты, што падае знакі ў бязьмежнасьць: мы тут пусьцілі карані роду й разьвяцьцілі да ўсіх вятроў і плыняў галінкі зьвязаў — з усім, што было й што настане. Бо мы тут ёсьць су-творцамі й складнікамі каруны су-часнасьці.

Якраз тое самае паказвае нам і кожная вясна — выслабаненьне вечнае несьмяротнае сілы з-пад зьняменьня й паўсоньня яшчэ больш упэўненай і больш ярай, чым была яна, калі паддалася ўладзе лютага Цмока й занурылася ў пракаветную цемру. Бо на Цмока лютага абавязкова існуе энэргія супраціўная, лагодная — Нябеснага Цмока. І адно за конт іхнага змагарства паўстае сьвет абноўлены са шкарлупіньня сьвету распалага й растрэсенага, прыдатнага толькі на сыход у рэзэрвуар збытнасьці, каб зрабіцца дайным «перагноем» для наступнай эвалюцыйнай хвалі. Каб гэтым зьнікненьнем, пераходам зь яўленага ў нябачнае, ператварэньнем гневу ў цярпеньне, гэтым ахвярным паслугаваньнем эвалюцыі выканаць астатняе сваё перадвызначэньне — праілюстраваць вяршэнства Стваральнасьці над занядбаньнем ува ўсім сьвеце і ў кожнай асобнай прыроднай клетцы.

Так дзейнічае асноўны з касьмічных законаў — закон Павяртаньня. Нібыта пружыніць, заўсёды напагатове раскруціцца, сьціснутая да часу, памятлівая сьпіраль, у вітках якое зьберагаецца патэнцыйная магута назапашаных энэргій ды інфармацыі макракосму, пабольшваная ў працэсе кожнага цыклю аднаўленьня зь небыцьця.

Той самы закон, дарэчы, ахоплівае і ўсе мікрачасьціны Прыроды — ад жыцьцядзейнасьці мурашніка да ўладаваньня людзкой грамады,

племені, этнасу альбо дзяржавы. Гэтаксама, нібы ніадкуль, зьяўляюцца драпежныя Цмокі роўна ў тыя моманты, калі быцьцё выдае хутчэй на гісторыю хваробы, чым на разьвівальны рух. Акурат яны, Цмокі, і правакуюць выбух, выклікаюць здаровыя структуры заняпалага, зьнямоглага грамадзтва на разьбіральніцтва зь імі, барацьбу з усталяванай імі ўладай. Няшчасныя Цмокі, учаперыўшыся за сваю троннасьць, і ўяўленьня ня маюць, што, учыняючы катарсыс, яны ж самі мусяць упасьці першымі ахвярамі пад мячом пакут і ачышчэньня.

А вось калі балючыя патугі й схопкі да катарсысу ўсё ж не прыводзяць і вызваленьня новых, прасьветленых, энэргій з-пад замшэлых пнёў састарэласьці не адбываецца, цмокавая цямнота хуткасна нарастае й абрыньваецца на супраціўнікаў шквальным цемрашальствам, падсьвядома помсьцячы ўсёй Існасьці за няспраўджаньне Перамен, надыктаваных і рыхтаваных Вялікай Цэласьцю. А раз ня споўніўся закон Павяртаньня й аднаўленчыя энэргіі Волі, Творчасьці й Любові ня здолелі ўзбагаціцца й падужэць у часе адступленьня, каб зьдзейсьніць прарыў раўнаважна й упэўнена — гэтак, як робіць наступ вясна, узьвяршаючы сваёй місіяй Сьвятло над цемрай, Рух над спынам і Лучнасьць над разьяднаньнем, то надалей Цмоку толькі й застаецца, што рваць на шкуматы ўсе жывыя тканкі й даводзіць грамадзкі арганізм да комы. Цяпер ужо энэргіям Жыцьця няма іншага выйсьця, акрамя зьяднаньня й бунту — іначай жа кома спакваля скамечваецца ў ціхае, глухое паміраньне: тады ніхто ўжо нават і не прыкмеціць, як Жыцьцё баязьліва згасьне.

Цяперашняя наша загнанасьць у кому выдае на камічную, бо здушанае й закратаванае нешматлікае пакуль паўстаньне ўсё адно дыхае куды спраўней і застрашана куды слабей за «пераможцу»-Цмока. І тое азначае, што веснавыя паводкі й бліскавіцы яшчэ разварушацца ўсярэдзіне нашай натуры, каб разгойдаць новую хвалю выслабаненьня Жыцьця з цмокавай стабільнасьці — з Кашчавага куфра спарахнелых паняткаў і лёзунгаў. Зь відушчае кропкі нуль, дзе штоpазу спаўняецца найважнейшы выбар — сыйсьці й саступіць месца хіжай сіле руйнаваньня, якая доўга яшчэ ня стане здатнай да стварэньня, альбо змагацца за жыцьцё неадступна — і адсунуць цмокавы прэтэнзіі ў закуты рэчаіснасьці ды рушыць да новых сягненьняў…

Але вернемся ў сугрэўнае ўлоньне маці-прыроды, каб нажывіцца тою перайначанаю веснавымі Саракамі, узРАЕнаю шчодрасьцю, зь якой ізноўку выправімся, пачуўшы нарэшце прарочы покліч Купалы «на сход, на вялікі сход», па «нашу і вашу волю» — з імём і паходняй Кастуся Каліноўскага.

## Вясна-красна на ўвесь сьвет

Будзь здароў, як вада, а расьці, як вярба. Гэткае зычаньне-замаўленьне адвеку вястуе, што Вялікія дні падступаюць да самае Брамы быцьця, і чалавеку, усім жывым стварэньням у сьвеце ўжо лёгка акрыліць думкі й парываньні, каб увайсьці ў помную плыню бясконцасьці й набраць жыватворнае энэргіі Пачатку. Пад карэньне мітычнае вярбы — дрэва, што вартуе парог да вясны, да новага ўзьвершаньня, засялілася пасьля каляднага Хрышчэньня глыбінная цёмная сіла падземных вод. Стуль, з апраметнай, дзе ўпарты Зьніч нястомна расьцеплівае першасны нетравы вагонь, узрастае праўдзівы Новы год — час гатовасьці Зямлі прыняць ва ўлоньне сонцавы дасыл Неба й сфармаваць зародак прышласьці.

Колісь вярбіну з удзякай і пашанай вырывалі з долу, адасабляючы гэты сьвет, дзённа-адкрыты, ад іншасьвету — змрочнага, чужога й незразумелага, але гэткага ж дайнага й творнага, дзеля асьвячэньня ў капішчы — вадой, полымем і вядунскай Пячатаю (замоўнай формулай). Цяпер сьвяточнае ўбранства нядзельных вербавых галінак у храмава-хроснай дарозе (пасьвячэнскай!) шапаціць-гаворыць усё тую ж пракаветную радасьць Выйсьця і Ўваходу — вызваленьня глыбіннай, патайной, падсьведамай магуты зь ядра сутнасьці й уваходжаньня яе ў стан Праявы, уцелаваньня за конт злучнасьці, паразуменьня споду-дна зь верхавінай-купалам. Так Хрыстос явіў Сусьвету Любоў Уваходжаньнем у Месца яе спаўненьня, збыцьця. І гэтаксама, як зь бяздоннага працемрыва суправаджае вярба мысьленчую скіраванасьць чалавека ў вышу — да пазнаньня ўласнай вартасьці й сягненьня звышвартасьці,









пальмавым вецьцем віталі Ўлучнасьць Хрыста ў Драму, што мела разгарнуцца на мастку часу й бясчасься, распаду й цалкаваньня, скону й уваскрошаньня.

Сьвет здаровы й здатны да самаачышчэньня-прасьвятленьня, як вада, і дужы-моцны сваёй тонкасьцю й чуйнасьцю, як вярба, годна пагаджаецца прыняць пакуты й выпрабаваньні за навучаньне й гарт. Акурат гэта й паказала празь вякі гордае зьмірэньне Хрыста. Сьвет паўстае ў веснавой Перамене старога на новае гарантам несупыннасьці ўзвышальнай, спасьцігальнай хады. І абярожная гаючасьць кволых вербавых пруточкаў («Ня я б'ю, вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень») з году ў год, зь веку ў век працуе аж да самага скону — на сьвятло, чысьціню й пашырэньне Веды. Таму што нажыўляецца шчодра аддаванай сілай людзкое чыннасьці — пераўвасабленьняў-перамяненьняў. Менавіта гэтак высьцілаецца з бытнасьці ў будучынь абуджальны Вербны шлях, што вядзе да Вялікадня — прапродкавага Новага году, пралягаючы празь мяжова-калінавы мост усёўзнаўленьня.

Анішто з адбываннага з намі й вакол нас не бывае выпадковым: усё мае місію весьці, дараджваць і засьцерагаць. Засланяць ад пагібелі. Як маразы-вербічы, што перад самым Вялікаднем праводзяць зь яшчэ не акрыялымі зь зімы парасткамі «тэст» на трываньне — мацуюць імунітэт. Як ашчэраны Цмок, ня згодны здацца аж да тае пары, пакуль ня «выгадуе» сваёй зацкаванай дарэшты жорсткасьцю з ворагаў-«адмарозкаў» вяршэньнікаў Перамен.

А вярбіна, гнуткая й разумная, паўстае, нібы ахоўны знак на раздарожжах-ростанях: мэдыюмна гаворыць з падваконьня з громам, навальніцай і градам, адводзячы ад людзкіх лёсаў і сядзіб пагрозу панішчэньня. Яшчэ й дагэтуль ледзь ня кожная бабулька на вёсцы прыгадае, што, жуючы дзевяць пупышак з асьвечанай вярбы, можна суцішыць ліхаманку й зубны боль; што вербавы попел, рассыпаны вакол зыбкі немаўляці, адмяжуе ад яго цяжкія энэргіі; што абкурваньне хаты й хворых сваякоў запаленай вербавай галінкай папярэдзіць нягоды-напады; што й на магілцы вярбінка зладуе цішу й спакой, замірэньне жывых з памерлымі.

## Павяртаньне з выраю ў рай

...З выраю, з-за сіняга мрой-мора павяртаюцца птушкі да гнёздаў. Зь вершаліны Сусьветнага дрэва, дзе з душамі Дзядоў (усіх, хто жыў-быў на гэтай зямлі) разам шукалі пуцявіну ў рай. Мабыць, раем і ёсьць якраз тая мясьціна й тая часіна, дзе мы сыйшліся-спаткаліся — прайсьці-адужаць сваю пуціну разам, плячо да пляча, сэрца ў сэрца, вочы ў вочы, думы да думаў? А ці ўмеем ці прыгадаем, што займелі дарам у спадчыну — каб не прапасьці, не падпасьці пад морак, ня выслацца ціхмянай травой пад татальна-таптальнымі цмокавымі набегамі на кволую маладую рунь? Каб узрасьціць свой рай.

Хаця... рай — гэта ж не геаграфічная кропка. Гэта стан пачуваньня ў сьвеце. Напэўна, шчасьлівага пачуваньня Волі, Радасьці й Непадуладнасьці цёмным энэргіям разбурэньня. Бо праз эпохі й эры зямнога існаваньня (роўна ў гэткіх жа рытмах, як у гадавым прыродным Коле) мы навучаемся адольваць разбурэнчыя рухі дзеля паўставаньня сябе саміх новымі, інакшымі, удасканаленымі. Дзеля асабовай і ўсяленскай эвалюцыі. І вось нарэшце аднойчы сягаем раю — вызваленьня ад барацьбы й няспынных пераўтварэньняў, зьвершанасьці ідэальнай гармоніі. Застаецца хіба адказнасьць перад тымі, хто ў Дарозе, хто яшчэ адольвае свае зруйнаваньні й складаньні, каб дайсьці да ладу й сьвятла, любові й спакою. А значыць, застаецца заўсёды права выбару — узяць гэтую адказнасьць за іншых на сябе ці адмахнуцца й засяродзіцца на ўласным шляху Ўзвышэньня.

...Сьцярожка хутаючы ў шчыльнае радно паўзьнямелую Традыцыю, тая самая бабулька ўпэўнена давядзе: вяцьціна-вербачка й велікоднае яйка пажар спыняюць — адно праўдзіва дай, чалавеча, ім распараду, закідаючы ў бунтоўны вагонь. Бо як адмыкае бог на Саракі вырай і павяртаюцца птахі да зямлі-радзіны, усё ТУТ магчыма і ўсё гатова да Перамен. А дзеля тых Перамен барацьбуюць у

прасторы бог-Грымотнік з татэмным продкам (ці з апекуном падзем’я й творчасьці Вялесам?), і запальваюць людзі паўсюль ачышчальныя вогнішчы на іхныя перамовы. Каб нарэшце з канфлікту-сутыку, які ёсьць пабуджальнай матывацыяй перамяненьня, сягнулі зямная зладжанасьць і раўнаважжа. Каб Зьвеставаньне прадвесьціла нараджэньне Хрыста — панаваньне любові й адказнасьці.

Мядзьведзь і зьмяюка, бусел і жаваронкі, што разварушваюць усе разам, будзяць бруістую сілу жыцьця, спрычыняюцца да плянэтарнага акту апладненьня, высьпельваньня й родаў. І чалавек набывае ролю пасярэдніка між нябачным сьветам, дзе ўсё праектуецца, і сьветам рэалізаваньня. Таму ён спраўляе 24 сакавіка Камаедзіцы, імітуючы варочаньне мядзьведзя ў бярлозе на прочыне, ушаноўвае абагаўлёнага продка-бусла й вестуноў цяпла — жаваронкаў (выпякае зь цеста пташак і бусловыя лапкі — галёпы), вышуквае формулы паяднаньня з вужакамі-гадзюкамі.

Гэтак выяўляе волю бог (стараіндыйскае *dhaga*) — доля, шанец. У адамкнёным богам выраі чалавек прымае на сябе місію — у зьвязе са стыхіямі і ўсім божым спараджэньнем, зь першаснаспрадвечным і наноў узьніклым, зьвяршыць сьвятаачышчэньне й прадукаваньне-працяг. І ў прасьцягу ўсяленскага бязьмежжа да зачаткавага вагню мкне стваральная вада, быццам зь вечнароднага хаосу зноў фармуецца самадастатковы й самаспасьцігальны, самаўзнаўляльны Космас.

Містычная й магічная вада пільнуе мяжу самастварэньня — каб не абрынуўся той макракосм (і мікракосм чалавечага жыцьця ўсярэдзіне глябальных Перамен) у бездань, дзе валадарыць сьмерць. Чалавек жа складае коды-абрады — дамовы з Конам, надзеленым правам разьмеркаваньня долі й нядолі, шанцу й няўдаліц. Чалавеку вядомы шыфар касьмічнага сумоўя, ён прайшоў свой выпрабавальны шлях і ўварціўся ініцыяваньня (спасярод мора-акіяна на старым дубе ў куфэрку знайшоў ключ Веды ў каччыным яйку). Ён нават вытрываў і дачакаўся вызначальнага моманту,



калі качка зьнесла тое яйка ў зачараванай (непрыступнай) атмасфэры сусьветнай таёмы. Цяпер яйка мусіць зрабіцца найграным (аплодненым). І гэтак зь безладзі ўпарадкуецца ладнасьць. Гэтак вада спакваля ператвараецца ў сродак сканструяваньня новага, гарманічнага сьвету. Дзеля гэтага сонца грае на Вялікдзень, а потым — на Купальле. Вось цяпер адно самому чалавеку належыць намацаць уласную кропку ўплыву, узьдзеяньня — на вагонь, ваду, зямлю й паветра, наагул на ўсё падуладнае Творцу й праграмаванае на творчасьць.

Вада ж валодніца, амываючы немаўлятка-год у Чысты чацьвер, вольнай хваляй разьбіваецца аб зямную цьвердзь, выносячы на берагі Быцьця дыямэнты Веды і ўсяленскай памяці, наноў замоўналекавальна творачы зь першабытнага хаосу хараство й гармонію.

Зачарпні, чалавеча, у прыгаршчы правечнай сьветлыні сутоку з трох, сямі, дзевяці крыніц — і намаўляй красу й дараду, складай паразуменьне. Адно ж нагортвай вады супраць плыні ды засяляй усярэдзіну сябе адказнасьць: тое ж твае жаданьні й намеры натуе й зматэрыялізоўвае яе Вялікасьць Любоў, дарункава разьлітая па ўсёй прасторы ва ўсялякі час. Тое ж ты сам — трапяткая ніціна сусьветнай Тканкі-Цэласьці, — кладучы ў ваду асьвечаныя абразы ці яйкі й нават апалоскваючы ад рошчыны дзяжу й верачы ў цуд асьвячэньня, далучаесься да злучальнай сьвятадзеі, пераймаеш і перадаеш токі любові. Праводзіш празь сябе адзінаісную сілу Жыцьця.






## «Ой, ідуць-гудуць валачобнікі»

...Валачобнікі — недакучнікі. Юначая дружына (носьбіты мужчынскай сілы, сонцавай!) і ўзапраўду шторазу велічна-ўрачыста павяртае да Зямлі зьніклага бога ўраджаю. Дык жа насустрач богазьяўленьню грае траістая музыка (дуда, гармонік, бубен), запявае старыя гімны пачынальнічак, падмагае яму падхватнічак, і ходзіць вясёлая грамада да двароў, да хат, зьбіраючы велікодныя дары ў вярэньку механошы й славячы гаспадароў на ўвесь сьвет-першаквет...

Так сталюецца абноўлены Космас, і мікракосм чалавечага жытлаператвараецца ў мадэлю Звышнасьці. Покуць, наскрозна працятая новымі энэргіямі, чырвоныя пялёсткі сьвечак у белым полі збыцьця й наступу, ручнікі з крыжамі, ромбамі й помнымі кропкамі зерня, з выявай маці-Берагіні й Дрэва роду — усё люструе Небу ахвярна-люботнае прыпадабненьне: як уверсе, так і ўнізе. Усё цьвердзіць сасьпеласьць да ўдзелу ў Вялікім пераходзе праз калінавы мост — вылушчваньне гарэху існасьці з аджылага шкарлупіньня: як унізе, так і ўверсе. Бо гэтак працуе закон Павяртаньня.

Дзеля захаваньня чысьціні й зладу на золку Краснай суботы дванаццаць дзяўчат, апранутых адкрыта-бела, вядуць плугам баразну вакол сядзібы. Гэтак знакава замкнуўшы дзявочыя (эратычныя!) абрады вясны аж да Ўшэсьця, калі настане пара «пахаваць» у дол «стралу» (мабыць, фалічную моц?), мітычная жанчына (Маці-радзіцелька!) дэманструе памкнёнасьць раскрыць замоўленае, аберажонае ўлоньне да зачыну. Бо да Вялікадня зямля заставалася нерушнай, недачэпнай, адгэтуль жа настае час новае сяўбы.

А пакуль ганарова вітаюць гаспадары валачобнікаў, ахвяруюць яйкі, пірагі ды ўсялякую смокаць на прышэсьце Новага году, раздаюць адно другому віншавальныя дарункі (гэты ўзаемаабмен таксама ж працуе на зьяднаньне часьцінак у Цэласьць, на прычашчэньне малога да Вялікага!). Пакуль найпачэснае месца займае сьвятое яйка — сымбаль сьветазбудовы й сьветаразьвіцьця, яскравы адбітак першапачатку й кругазвароту зьяў і станаў праз народзіны са сьмерці. Чырвонае (а тым больш — маляванае архаічнымі рунічнымі ўзорамі!) яйка растаемнівае тое, што заўжды трымае ў сабе ўпотай, — прыналежнасьць да сакральнай сфэры неадольнай, неўміручай, прачыстай патэнцыйнай магуты Жыцьця.

## «Зялён явар, зеляны»...

...Умывала бабуля калісь мне тварык, у далёкую эру дзяцінства, і вадзіцай з трох крыніц, і вадой, дзе «купалася» асьвечанае яйка, і юр'евай расою з прошчы пад пахілым крыжом — заводзіла ў валадарства духаў, што дыхалі з-пад зямлі, з-пад поля ўсяленскай лучнасьці цеплынёй-прыязнасьцю. І водгалас таго (здаецца, атамарнага!) счапленьня па ўсёй пуціне маёй рассыпае кроплі неймавернай лёгкасьці на ўваходзе ў ціхія Весьніцы сапраўднага распачыну-Вялікадня, авеяныя нейкім шчымлівым, трапяткім і кранальным запевам: «Зялён явар, зеляны...».

Можа, явар той пры белым камені (Вечнае дрэва над алатыр-каменем?) і шукаем нястомна-няўтольна, каб уведаць адно-адзінае: жывём у раю, распасьцертым да нас усімі шчасьцямі-выгодамі, што былі, ёсьць і будуць, неадменна й заўжды? І ўсё ўсяленскае Быцьцё пахілёнае да нас, як тая тонкая вярбіна, з адным прагавітым жаданьнем: каб кожная клетачка гэтага несупыннага Руху, у якім мы ёсьць нязьменна-вечна, пачувалася шчаслівай і вольнай, лёгкай і радаснай. Самою сабою сапраўднай, са сьвятла й любові сатворанай.

Каб ставала нам сілы й харобрасьці на пуцінах гісторыі адсланяць нашэсьці Цмока лютага, прымаць годна разбурэньні, ім учыненыя, і ўзбудоўваць наноў свой сьвет, свой лад, сваё Быцьцё па законах папярэднікаў і на ўзыход нашчадкаў. Бо ўся Вялікая й Мудрая Існасьць хоча нашай Волі й нашага Шчасьця, зьдзяйсьняных нашымі рукамі, сэрцамі й думкамі, бясконца й несупынна, з усялякага змаганьня й руйнаваньня, праз усе перашкоды й выпрабаваньні, ува ўсе бакі сьвету й ува ўсе часы вечнасьці. Так сплянавана звыш: каб «зялён явар, зеляны», скідаючы крону ўвосень і пражываючы халады, «складаў» праграму радасьці на новае лета — з новай кронай, новай цыркуляцыяй сакаўной, маладой сілы, новым чынам.

Гэтак і мы, загнаныя ў палонку схаладнеласьці й распраў, прыгнёныя пад зламыснасьцю Цмока, маем у глыбінях свайго радаводнага Жыцьця, мацаванага з бытнасьці й прышласьці, з прадоньня й правышнасьці, з пакуты й болю, веду, магуту й чуйнасьць, каб скласьці й нажывіць праграму аднаўленьня й росквіту. Каб споўніцца тут, на Айчыне, так, як таго жадае Бог, усяленскі й той, што жыткуе на покуці ў матулінай хаце, той, што дыхае ўсярэдзіне нашага пачуваньня зьлітнасьці Ўсяго з Усім, Пачатку з Краем, — Бог, часьцінкамі якога ёсьць непераможная вясна, Вялікдзень, мы й нашы ясныя, добрыя памкненьні.

*Захаваны правапіс арыгіналу*

**Сяргей Балай**, сябра БАЖ, у журналістыцы з 2003 года. У 2005 годзе стаў фотарэпарцёрам навапалацкай гарадской газеты «Хімік», зараз фотакарэспандэнт інтэрнэт-газеты «Салідарнасць». Супрацоўнічае з разнастайнымі беларускімі і замежнымі СМІ.





*Ганне Грэцкай з Берасцейшчыны — 100 гадоў*





*Наша цукровае шчасце*

*Александр ЮРИКОВ,*
*www.kommersant.ru*

# Безголосое радио




**Один из показателей кризиса в сфере музыкального радио — положение тех, кто первым пробился в новый диапазон.**

«Радио MAXIMUM» уже давно, вскоре после перехода под крыло «Русской медиагруппы», попало в разряд середнячков. Элегантная станция «Европа плюс», переходящая из рук в руки (из французских в русские и обратно), поражает ледяным равнодушием ведущих и программной службы к собственному эфиру. В водоворот разборок попало «Радио РОКС»: начались судебные иски, в Санкт-Петербурге частота вещания отошла новым московским владельцам, а коллектив станции, поддерживавший рок-звучание в городе на протяжении многих лет, остался без работы.

А главное — уже давно не появляются в эфире яркие личности, которых хотелось бы слушать, за которыми было бы интересно следить. А те, кто радовал нас в прошедшие десятилетия, или уплыли на ТВ, или вообще сменили сферу деятельности, или повторяют себя вчерашних. Где сегодняшняя Ксения Стриж с ее узнаваемым голосом и колючей интонацией? С ней часто хотелось спорить, но ее всегда хотелось слушать. Кто сможет повторить (или усилить) завораживающие интонации Жени Шаден — таинственного радиоперсонажа, позволявшего «Европе» не опасаться конкуренции в ночном эфире? Куда ушел «информационный клоун» Александр Абрахимов, превративший «MAXIMUM» не только в самую продвинутую, но и в самую интеллектуальную станцию в российском эфире?

Зато в нашей культурной столице с большим отрывом не первый год лидирует «Дорожное радио» — примитивная конструкция вообще без ведущих музыкального эфира (для экономии фонда зарплаты) и без единой вменяемой программы. А в плей-листах большинства рейтинговых радиостанций наверху «поющий приказчик» Стас Михайлов — исполнитель, словно созданный для корпоративных вечеринок. За ним, за Ваенгой, за Лепсом (монстрами нынешнего музыкального эфира) проглядывает жуткое мурло российского шансона, бессмысленного и беспощадного. Как поется в одной песне, звучавшей в эфире «Дорожного», «Ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту, мой поезд едет в Воркуту» (внимательно пересчитал — все «ту-ту» из текста на месте).

Не отползая в сладкое прошлое, хочется понять, что же убило живой радиоэфир.

Первая причина кризиса радиожанра — самострел. Так угробили «Радио MAXIMUM», сначала упразднив там информационную службу, затем отдав огромное количество времени ведущим, которые были людьми другой группы крови. В Питере через два года после того, как стартовало молодежное «Радио STUDIO», ворвавшееся в группу лидеров по рейтингам, владельцы решили, что сами знают, как делать радио. Эфир забили близкой их вкусу клубной музыкой, радио стало стремительно приближаться к рядовой танцплощадке. И скатилось во вторую десятку рейтинга, а самое главное — потеряло своего слушателя. «Радио ON LINE», где звучали голоса Стриж, Абрахимова, Константина





*Сяргей ШАПРАН*

# Рыгор Барадулін: «Караткевіч быў недасягальнай велічынёй для мяне»

Выбраныя старонкі з кнігі Сяргея Шапрана «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Самнасам з Барадуліным»

Працяг.
Пачатак у № 1 (92) 2012 г.

*Ён нарадзіўся —*
*І зрабілася болей на адну зорку*
*У сузор'і славутых імёнаў Беларушчыны.*

— ***Аднойчы ў Вас запыталіся, чаму Вы, дзядзька Рыгор, аддаяце перавагу сяброўству з вялікімі****?..*

— І я тады сказаў: калі пачыналася сяброўства, мае сябры хоць і былі яркімі асобамі, але не былі вялікімі. Я ніколі не арыентаваўся: вось гэты вялікі, а гэты — малы, — у мяне паняцця такога не было. Скажам, да Караткевіча мяне пацягнула адразу з першай нашай сустрэчы. Ён быў для мяне ўзорам высокага інтэлекту і адукаванасці, веды ў яго былі невераемныя! Караткевіч быў недасягальнай велічынёй для мяне. Мне падабаўся ягоны размах. З іншага боку, Караткевіч, зыходзячы з яго даверлівасці, светаўспрымання і любові да жыцця, быў геніяльным дзіцёнкам. Ён быў настолькі безабаронны, што сваёй безабароннасцю, напэўна, дасягаў большага, чымсьці калі быў бы абаронены.

Гэта быў унікальна адукаваны чалавек, які ніколі не думаў пра ўласную веліч, у адрозненне ад тых, хто ідзе і думае, як падае яго цень — каб цені правага і левага вушэй падалі сіметрычна. Ужо не кажу пра рэдкую і фенаменальную памяць Караткевіча, пра яго начытанасць — начытанасць, начытанасць і яшчэ раз начытанасць. Ён і засынаў, і прачынаўся з кнігай. І куды б мы ні ехалі, заўсёды ў яго з сабой была кніга. Апошнім часам у яго заўсёды былі папяроса ў зубах і кніга. І калі Багдановіча называлі Максім-кніжнік, дык Караткевіча я назваў бы Уладзімір-кніжнік.

Ён быў непасрэдным чалавекам. Любіў жарт і ніколі не крыўдзіўся на ўсялякія пад'южванні. Такі прыклад: у Валодзі была мянушка Фама Фаміч, яна з'явілася таму, што дадому яму часта тэлефанавалі і пыталіся Фаму Фаміча, які працаваў на нейкай базе. І так яго даводзілі, што ён крычаў: «Выкрасліце гэты нумар з вашай запісной кніжкі! Тут жыве і працуе празаік, паэт, эсэіст!..» А трэба сказаць, што з раніцы Валодзя не дужа галасы адрозніваў. Бывала, званю яму:

— Гэта Фама Фаміч?

— Выкрасліце гэты нумар!..

Я далей працягваю:

— Тут жыве і працуе празаік, паэт, эсэіст!

— Э-э, сабака! Гэта ты?..

Дарэчы, ён так прызвычаіўся да гэтай мянушкі, што ахвотней адгукаўся на Фаму, чымсьці на Валодзю. У той час я напісаў яму:

У гарэлку ўткнуўшы лыч,
Задрамаў Фама Фаміч.

Караткевіч быў маім самым блізкім сябрам. Зараз многія гавораць, што яны былі яго сябрамі… Караткевіч быў маім сябрам, што называецца, у дым. Мы былі настолькі блізкія з ім — як адно цэлае, што называецца, з адной шклянкі пілі… Дарэчы, калі мы з Валодзем разам пілі і трэба было пазычыць грошай, — да каго звычайна ішлі? Канешне, да Макаёнка! Андрэй быў адкрытым, шчодрым і таленавітым чалавекам. І вось так аднойчы да яго прыйшлі, пасля выпілі, але не хапіла, і мы — зноў да Макаёнка, а ён адказвае: «Позна. Не пайду я ў ашчадную касу грошы з кніжкі здымаць». Мы з Караткевічам пакрыўдзіліся, Валодзя гаворыць: «Напішы нешта пра Макаёнка», — я і напісаў:

І паваліцца славы казённы тын,
І развеецца пыл грашавітай раскошы.
Макаёнак запомніцца толькі тым,
Што ў яго пазычаў Караткевіч грошы.

Ці была такая эпіграма:

Наша моц і гордасць,
Што ж твой лёс цяжкі?
На каленях — торбы,
Пад вачмі — мяшкі.

Я любіў пісаць пра Караткевіча, майго вялікага і залатога сябра. Дапусцім, яшчэ такое:

Скажите, славный витязь,
Когда вы отрезвитесь?

І Валодзя заўсёды адказваў: «Ніколі».

Караткевіч любіў падкрэсліваць, што паходзіць са знакамітага роду. Аднойчы едзем разам (а з намі цэлая авоська чацвяртушак), і Валодзя, добра выпіўшы, раптам пытаецца:

— А ты ведаеш, што заснавальнік дома Раманавых Іван Кабыла быў конюхам у майго дзеда?

Я пачынаю цверазець:

— Валодзя, дому Раманавых трыста гадоў! Як ён мог быць конюхам у твайго дзеда?!

— Ну не ў дзеда, дык у прадзеда! І наогул — ты гісторыі не ведаеш!

Гэта было паўжартам сказана, але ў гэтым таксама ёсць шырыня. Так мог сказаць толькі Караткевіч, які ведаў сваю шляхетнасць, сваю панавітасць. І ў гэтым жарце — увесь Караткевіч!

Усялякіх гісторый з ім здаралася шмат. Неяк адной зімой мы жылі разам з ім у Доме творчасці ў Каралішчавічах: ён — у адным флігелі, я — у другім. І хаця гэта не дазвалялася, Валодзя ў той час многа чытаў Біблію, паколькі пісаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». А там, у Каралішчавічах, былі два нашыя любімыя сабакі — Джэры і Дазор, і мы парадзіравалі савецкую паэзію, выдумлялі такія вось скорагаворкі:

Гэй, да сонца, гэй, да зор!
З намі Джэры і Дазор.

Альбо:

Сук Дазор і сучка Джэры
Жралі сок і суп з фужэра.

Валодзя любіў паехаць у Мінск у рэстаран, заказаць там харчо, куранё табака, а костачкі прывезці сабакам.

Ці, напрыклад, пераклаў Валодзя паэму Адама Міцкевіча «Мешка, князь Наваградскі» і вось ідзе разам з жонкай Валяй у выдавецтва, а ў сумцы-старцоўцы (такія ў той час у модзе былі) — рука-



*З Міколам Аўрамчыкам (злева) і Уладзімірам Караткевічам*

піс паэмы і пляшка гарэлкі. Але, відаць, па дарозе бутэльку гэную яны ляснулі аб нейкі камень, бо прыходзяць да мяне ў выдавецтва, аддаюць заліты рукапіс, а там засталіся толькі чатыры словы: уверсе на першай старонцы — «Адам Міцкевіч», на пятай ці шостай — «Уладзімір Караткевіч». Увесь тэкст быў змыты гарэлкай! *(Смяецца.)* Так сам час звёў разам два геніяльныя імёны. Пасля Валодзя, канешне, усё аднаўляў…

***— Караткевіч прысвяціў Вам сваю навелу «Ладдзя Роспачы». Цікава, як характарызуецца там галоўны герой Гервасій Выліваха: «Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін — самых заганных. Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, піток, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць — «завалідрога», а мы, людзі роду крывіцкага, «адарвірог»...» І г. д. Ці былі Вы ў маладосці нечым падобныя да Выліваха? Што ў ім ад Вас?***

— Ну, нешта, канешне, ёсць у гэтым… *(Смяецца.)* Але кожны літаратурны герой — ён зборны.

***— А чаму Караткевіч ахвяраваў Вам менавіта «Ладдзю Роспачы»?***

— Ну, справа ў тым, што мы з ім вясёла жылі... Так што ўсё магло быць...

***— Усё-такі: магло быць ці было?***

— Думаю, што было. *(Усміхаецца.)*

***— Дый сам Караткевіч, пэўна ж, быў такі чалавек...***

— У Выліваху частка ад мяне, частка — ад Валодзі, калі ўжо так браць. Ён жыў, як дыхаў. Быў натуральны, нават звышнатуральны...

Дарэчы, у мяне захаваўся рукапіс «Ладдзі Роспачы», з ім цікавая, нават дэтэктыўная гісторыя здарылася. Справа ў тым, што Васіль Сёмуха ўзяў перакладаць аповесць на рускую мову, а пасля яна неяк апынулася ў мяне, Караткевіч жа абвінаваціў Сёмуху, што той згубіў рукапіс, я ж пасля знайшоў яго, але чамусьці за газавай плітой.

У мяне быў і чацвёрты экзэмпляр «Каласоў пад сярпом тваім» — мы перавезлі яго ва Ушачы на аўтобусе, Валодзя ўсё-ткі асцерагаўся за свой раман, не выключаў, што ён можа быць знішчаны. Караткевіч вельмі даражыў гэтым раманам, ён ведаў, што гэта практычна вяршыня яго творчасці. Гэта сноп, які ён назбіраў з поля гісторыі, з поля беларушчыны, гэта самы цяжкі, самы важкі сноп у яго творчасці. «Каласы пад сярпом тваім» ліквідавалі прабел у беларускай літаратуры, у якой неставала фундаментальных інтэлектуальных твораў. Караткевіч рабіў практычна тое самае, што, дапусцім, зрабіў у рускай літаратуры Леў Талстой. Так, у нас былі тыя ж самыя «Людзі на балоце», але гэта ўсё-ткі савецкі твор, бо аповед пра асушэнне балот, партызанскую барацьбу і да таго падобнае наўрад ці можна назваць эпасам. А «Каласы пад сярпом тваім» — гэта ўжо сапраўдны інтэлектуальны эпас, які ўздымае пласты народнага духу і які абагульняе вялікі душэўны вопыт, ён займае арганічнае месца ў кантэксце еўрапейскага мыслення і наогул сусветнай культуры. І самае цікавае, што заўсёды Караткевіч дабіваўся, каб творы яго чыталіся, каб чытач не засынаў ужо на пятай старонцы.

У выдавецтве, куды Караткевіч аддаў свой раман, адразу занепакоіліся: яны разумелі, што за выданне такога твора можна і з працы зляцець, — гэта ж савецкія часы былі. І вось каму аддаваць на рэцэнзію? Звычайна, калі твор трэба было зарэзаць, яго аддавалі рэцэнзаваць Максіму Лужаніну, які, светлая яму памяць, хадзіў у любімцах партыі і, думаю, пэўных органаў. У той час мы якраз былі ў Каралішчавічах і то выгульвалі Лужаніна, то запрашалі на чарку — у мяне заўсёды было што выпіць. Мама ж Караткевіча *(смяецца)* гуляла ў прэферанс з Лужанінам. Аднойчы, помню, Валодзя гаворыць: «Мама прайграла тры рублі. Як жыць?!» Сказана гэта было, канешне, з усмешкай. Між іншым, ёсць фотаздымак, дзе мы разам з Лужанінам, — гэта якраз у той час... І вось неяк мы ўсё-ткі схілілі Лужаніна напісаць станоўчую рэцэнзію, ці, мабыць, у яго сумленне прачнулася. Праўда, працэс выдання рамана ўсё адно зацягнуўся, тым не менш «Каласы» былі выдадзеныя.


*З жонкай Валянцінай і Уладзімірам Караткевічам. 1968 г. Фота С. Панізніка*

Дарэчы, тады ж адбылася і адна вясёлая гісторыя. Тым разам мы вярталіся ў Каралішчавічы на таксі, а далей — заставалася кіламетраў пяць — ужо на трактары, дамовіліся за дзве чацвяртушкі. У той час у Доме творчасці жылі Куляшоў, Лужанін ды іншыя — уся, так бы мовіць, кампанія. Трактар жа так раве, а я так ап'янеў, што гавару трактарысту: «Даю яшчэ дзве чацвяртушкі, а ты робіш два кругі вакол Дома творчасці!» Гэта ў дзве гадзіны ночы! Трактарыст ужо быў згадзіўся, але тут Валодзя гаворыць: «Нас выганяць». Канешне, нас выгналі б — на нас і так ужо касавурыліся. Таму мы, аддаўшы трактарысту тыя чацвяртушкі, пайшлі пешкі.

***— Адам Мальдзіс прыгадваў, што, калі пытанне пра выданне «Каласоў» яшчэ не было вырашана, сябры прапаноўвалі аўтару пусціць раман па руках, у спісах, аднак сам Караткевіч быў катэгарычна супраць гэтага. Але чаму?***


*Сябры. Фота У. Крука*

— Разумееце, што значыць пусціць «Каласы пад сярпом тваім» па руках? Гэта ж не лістоўка і па памеры, і па вазе! Па-другое, друкарская машынка брала не больш за чатыры экзэмпляры... Мы ўсё рабілі, каб «Каласы» былі выдадзеныя. Я заўсёды гаварыў Валодзю, што рана ці позна, але яны выйдуць. На гэта ён адказваў, што лепей, вядома, каб пры яго жыцці. І, дарэчы, вялікіх правак у рамане не рабіў. Гэта яго любімы выраз быў: «І коскі з месца не зрушу!» Гэта быў прынцып Караткевіча.

Ужо пасля я напісаў Валодзю:

Твой раман падабаецца ўсім,
Толькі думкай чытач заняты:
Каласы пад сярпом тваім,
Пад чыім жа сярпом зярняты?

***— А ці гаварыў нешта Караткевіч пра працяг «Каласоў»?***

— Размова аб тым, што ён піша працяг, была, і не раз. Гэта абсалютна дакладна. Але разумееце, я і дасюль не ведаю, ці ён пісаў, ці гэта было толькі яго жаданне. Мабыць, душа і думка працягвалі працаваць, аднак жыццёвыя абставіны ды здароўе... Напэўна, працяг «Каласоў» існаваў толькі як задума. Гэта мае асабістае меркаванне, але не

магу сцвярджаць гэтага. Калі б існавалі нейкія чарнавікі, я б ведаў.

***— Зноў жа Адам Мальдзіс пісаў, што, калі Караткевічы паехалі адпачываць на поўдзень, іх кватэру абрабавалі...***

— Так, абрабавалі, гэта стары кэдэбісцкі метад.

***— На Вашую думку, не маглі тады скрасці працяг «Каласоў» — пры ўмове, канешне, што ён існаваў?***

— Маглі-маглі, гэта ў стылі «канторы глыбокага бурэння». Тым больш, наколькі помню, крадзеж быў такі... Валодзя быў бедны на грошы, але багаты на творы.

***— Як Караткевіч успрымаў усялякія нападкі на сябе?***

— Ён усё-ткі заўсёды адчуваў сябе радавітым нашчадкам, ён, паўтаруся, ведаў цану сабе, хоць і не падкрэсліваў гэтага, не пыжыўся. Я вось нядаўна прачытаў такую кітайскую прыказку: чалавека, які не паважае сябе, ніхто не паважае. Дык вось Караткевіч паважаў сябе і на тых жа крытыкаў паглядаў, як на школьнікаў... Я некалі напісаў яму, што пасля практычна спраўдзілася:

А Фама і ў вус не дзьме.
Быць такімі ўсім бы!
На зямлі ён у дзярме,
А ў бяссмерці — з німбам.

Думаю, што ў душы Валодзю гэта падабалася.

***— Ці часта даводзілася Вам падтрымліваць Караткевіча, і наогул — ці меў ён патрэбу ў гэтым?***

— Не падумайце, што хачу цяпер прымазацца, але мы былі з Валодзем як неразлітая бутэлька, калі можна так сказаць... Я адчуваў, што ён меў патрэбу, таму што ў нас... Я нават не ўяўляў дзень без ранішняй размовы з Валодзем — ці я яму тэлефанаваў, ці ён мне.

***— На шмат якіх здымках Караткевіч выглядае літаральна хлопчыкам, нават у той час, калі працаваў над «Каласамі». Але, калі Вы цяпер гаворыце пра яго, якім ён Вам уяўляецца — як у апошнія гады ці вось такім — зусім яшчэ хлапчуком?***

— Я не ўяўляю Караткевіча старым, не ўяўляю. Ён і адышоў маладым — маладым і душою, і аблiччам. Я неяк пісаў, што гэта дзіця з вачыма празорліўца. Караткевіч быў пасланы нам Богам. І я не ўяўляю яго старым.

*Працяг у наступным нумары*

# «Зямлю» ўзнагародзілі ў Парыжы




Беларускі дакументальны фільм «Зямля», зняты на замову тэлеканала «Белсат», узнагародзілі на XXXIV Міжнародным кінафестывалі «Cinéma du Réel», які праходзіў у канцы сакавіка — пачатку красавіка ў Парыжы.

«Cinéma du Réel» — гэта найбуйнейшы фестываль дакументальных фільмаў у франкафонным свеце. Стужка «Белсата» атрымала ўзнагароду «Prix International de la Scam» у катэгорыі кароткаметражных замежных дакументальных фільмаў. Беларускі фільм канкураваў з 10 іншымі стужкамі з усяго свету.

Фільм «Зямля» — гэта стужка-элегія пра крохкасць, хуткаплыннасць жыцця. На беларуска-расійскім памежжы шукаюць чалавечыя парэшткі, не пахаваныя ад часоў Другой сусветнай вайны. За сем гадоў знайшлі парэшткі больш за 700 жаўнераў. У 1942 годзе тут, у віцебскіх і наўгародскіх лясах, праходзіла лінія фронту, дзе загінулі тысячы савецкіх вайскоўцаў. Тады адзін полк СС знішчыў тры савецкія дывізіі. Страты Чырвонай Арміі падчас пазіцыйнай вайны за наступныя два гады склалі каля 75% ад усёй колькасці вайскоўцаў.

Капачы едуць сюды за свой кошт, жывуць у палявых умовах, спяць у намётах, харчуюцца кансервамі ды ўвесь дзень прасейваюць брудную зямлю, каб знайсці як мага больш. Праўда, галоўнае, што цікавіць капачоў, — металічныя прадметы, што захаваліся лепш за чалавечыя косці... Менавіта паводле іх і можна знайсці загінулых тут жаўнераў, каб аддаць ім апошнюю пашану: пахаваць па-хрысціянску.

Прадукцыя «Белсата» ўжо перамагала на фестывалі «Cinéma du Réel». Фільм «Рабінзоны Мантсінсаары» Віктара Аслюка таксама атрымаў прэмію «Prix International de la Scam».

*www.belsat.eu*




# ЧУДО

## деревенский детектив



*Анатолий ГУЛЯЕВ*

— Сейчас приедем в баню, там и поужинаем, — мечтательно говорит Эдвардович, председатель одного из крупнейших на Брестчине колхозов, выруливая от конторы по голому льду, который после вечернего мороза покрыл сельский асфальт. — Вот только заедем...

Мы миновали несколько добротных жилых домов, окна которых желтели мягким светом, тем более уютным, что в УАЗе было жутко холодно. В эти предновогодние дни я купился на лояльный прогноз погоды и поехал в командировку за две сотни километров от Минска в пижонской куртке на синтепоне. Потом в свете фар на фоне заснеженных сосен деревенской окраины появилось длинное одноэтажное здание из белого силикатного кирпича. Машина остановилась.

— А что тут у тебя?

— Общага, в ней живут те, у кого нет своего жилья. Правда, жилье у нас строится, таких уже почти не осталось... Выгружаемся, у меня дело на 10 минут, не переживай. А потом сразу в баню!

Нельзя сказать, чтобы я сильно переживал, но бани в их колхознопредседательском варианте никогда меня сильно не привлекали. Уж слишком много там бывает водки! Каждый такой «оздоровительный» поход наносит удар по печени, сравнимый разве что с попаданием осколочного снаряда 115-миллиметровой гладкоствольной пушки танка Т-62...

К тому же я точно знал, что и сам Эдвардович бани с водкой не любит. Но в силу типично белорусского жертвенного представления о гостеприимстве он — совершенно непостижимо для меня — всегда уверен, что обязан изуверски напоить приехавшего по делам друга-журналиста. И сделать это именно в бане! Тем более что послезавтра — Новый год!

Тут нас обоих осветили фары еще одного УАЗа, подкатившего совершенно неслышно.

— Вот и урядник!

И точно, скрипя сапогами по снегу, к нам подошел милицейский майор в черном полушубке с погонами — местный участковый, фамилии которого не помню, поскольку все в лицо зовут его Францевичем. А между собой — «урядником».

— Ну что, пошли?

За верандой потянулся длинный коридор с единственным окном в конце, по обеим сторонам которого в полутьме угадывались дверные проемы.

— Опять лампочка не горит! — матюгнулся Эдвардович. — Ну я им...

И уверенно рванул третью по счету дверь справа. За ней открылась комната: две кровати, стол, стул, шкаф, лампочка под потолком... С кровати на нас смотрел мальчишка лет 15–16, высокий, ярко-рыжий, худой.

— Ну, расскажи, Андрей, где у тебя были деньги? — с места в карьер начал Эдвардович. — Где лежали?

Мальчишка ткнул пальцем в подушку, обтянутую свеженькой светлой в синий цветочек наволочкой:

— Тут!

— Ни х… себе, ты что, миллион под подушкой держал? — поразился майор. Его краснощекая физиономия в фуражке (Францевич никогда, даже в самые сильные морозы, не носит ушанку!), с пшеничными, аккуратно подстриженными офицерскими усами выражала не столько недоверие, сколько возмущение.

— А где еще? — в свою очередь поразился Андрей.

И было на его лице, в его черных маленьких глазках столько недоумения и столько настоящего, взрослого горя, что «урядник» отвернулся. А Андрей вдруг заплакал. Он сидел на кровати, подобрав под себя правую ногу, и что-то еще говорил взахлеб, что было не понять. И я вспомнил, как видел в лесу под Поставами попавшего в капкан лисенка. Его задняя лапка была зажата безжалостным железом, и он, рыжий и несчастный, только тявкал и уже никого не боялся. Ему было только больно…

Все замолчали.

— Детка мое, — вздохнул Эдвардович. — Ты весь день был дома? Скажи, кто к тебе заходил сегодня?

Андрей с силой вытер глаза, еще раз хлюпнул носом и начал перечислять:

— Петрович заходил. А потом еще Микола… А потом Сашка ваш…

— И все?

— Все.

— Ладно, будь тут. Не ходи никуда, понял?

Мы вышли к машинам.

— Францевич, едем ко мне, Сашку спросим…

— Вы что, ваш Сашка на такое не пойдет никогда!

— Спросим! — рыкнул Эдвардович.

Мы загрузились в машины и поехали.

— А что за история с этим Андреем?

— Тут у нас в районе школа есть для умственно отсталых детей. Так их там держат до восьмого класса, а потом никто не знает, что с ними делать. Я вот и взял этого Андрея, пристроил тут разнорабочим…

— И что?

— Кормим мы его бесплатно в столовой, живет бесплатно в нашей общаге. Зарплаты часть на счет идет, чтобы после 18 лет мог сам распоряжаться. Меньшую часть — тысяч 70 — на руки выдаем. Хлопец хороший. Ну не сильно умный — так тут таких половина. Ну не половина — есть такие, одним словом. Я думаю, станет старше — женим. У нас есть женщины в колхозе, которые и молодые, а без мужей — поспивались мужья, поумирали… Она будет командовать. А он послушный, хороший, хозяин будет в доме, идеальный муж. И как мужчина тоже — он же здоровый по этой части, я спрашивал доктора нашего… И пусть бы жил себе…

— Подожди, а что за деньги?

— Так в деревне у многих пацанов компьютеры есть. Эти, как их — ноутбуки. Батьки покупляли. А у него нет — кто ему купит? Он и копил, никуда не тратил. Ни сигареты, ни конфеты не купил за все время — упартый такой, хочет ноутбук. Что он с ним будет делать — не знаю. Что хочет, хоть гвозди им пусть забивает. Копил и складывал деньги под подушку. Я ж говорю — не сильно умный. Но миллион накопил! И все в общаге про этот его миллион знали… А сегодня как раз деньги из-под подушки пропали! И у какой это суки рука поднялась под Новый год?

Машина стала, мы вошли в калитку большого председательского дома, были привычно обгавканы шустрой маленькой собачкой по кличке Бакс и поднялись по ступенькам крыльца.

— Чого ж вы не ў лазні? — удивилась жена Эдвардовича Оля, невысокая, верткая полешучка, в приталенном домашнем халате, кокетливо подстриженная под мальчика, что неизменно придает ей ангельский вид фокстерьера Монморанси. Того самого, которого, по мнению Джерома К. Джерома, только за один этот вид следовало бы живым взять на небо.

— Там Семеновна в лазні вже всэ накрыла… І юшка стыне…

— Почекай, — буркнул Эдвардович. — Сашка дэ?

Он тоже полешук и дома тоже говорит на этой милой белорусско-русско-украинско-польской смеси языков. Как всякий приличный коктейль, она хороша на вкус и на слух…

— Я тут, тато.

Сашка, подросток лет 16-ти, стоит в проеме двери в просторный зал.

— Ты у Андрія в общаге був?

— Якого Андрія? «Тормоза»? Був, ноутбук показував, а шо?

— А то, шо у його грошы пропали. Миллион…

— Ты шо, батька, з глузду з'їхав? У «тормоза»?

Сашка возмущен. Но Ольга тут же все расставила по местам легко и привычно:

— Був чі не був, Сашка грошы не мог взяті! А ты, батька, мовчі, дурень старый! І ты, свіненок, не смій так діте неразумное обзываті — не погляжу на вас обоіх, рогачом так одкоцаю… А хто «двойку» по информатике принес? «Тормоз»! А сам ты не «тормоз»?

Мы тихонько выскользнули во двор, в очередной раз обгавканные собачкой по кличке Бакс. Пока не сели в машины, нас сопровождал доносившийся сквозь двери милозвучный, но возвысившийся до пронзительности голос Ольги, детально анализировавшей ситуацию — так, что

сразу становилось ясно, кто в этом доме настоящий председатель.

— Поехали! — смущенно сказал Эдвардович.

## Следственные действия

...Они ничего не принесли. Михайловна, зоотехник и параллельно комендант общаги, подтвердила, что на ее глазах сегодня заходили только Микола, Сашка и Петрович.

Микола, учитель труда из местной школы, действительно у Андрея в общаге был, но единственно с целью попросить его помочь подремонтировать оборудование в мастерской.

— Наши никто не мог украсть! — был уверен Микола, очкастый интеллигент и неизменный участник местной самодеятельности, неизменно с выражением читавший со сцены «Мой родны кут...». — Это кто-то чужой!

— Откуда у нас чужие? Все свои...

— Не скажите, Эдвардович. А которые в агрогородок понаехали? Они что, свои?

Майор сомневался:

— Г...на там всякого хватает. Но из них никто в общаге не был.

— То-то и оно...

И мы поехали к Петровичу. Выяснилось, что Петрович, механизатор и муж Сергеевны — одной из местных бухгалтерш — в общагу заходил, чтобы отремонтировать свет в коридоре, но запасной лампочки не нашлось, а магазин по случаю Нового года был уже закрыт.

Сергеевна, женщина лет 35-ти, тут же рассудительно сказала, что уже поздно и раз мы все равно пришли, то она нам налила бы по рюмке. Опять же, Новый год...

Петрович заметно воспрянул духом и, пока мы нерешительно мялись, на своих длинных ногах в разношенных кирзовых сапогах сбегал в погреб и принес радостно хрустящей на зубах квашеной капусты. Сергеевна уже резала «пальцем пханую» колбасу, а «рюмка» обернулась фужерами, на две трети наполненными хорошим местным самогоном, от которого не болит потом голова. Если, конечно, выпил накануне не больше литра...

Отступать было поздно — да и зачем? Мы дружно выпили, продемонстрировав хорошую школу, — никто не закашлялся даже. Заели колбасой, посмаковали капусту и, сопровождаемые просьбами посидеть еще, вышли на крыльцо.

— А знаеця, — вдруг сказал Петрович. — Знаеця, там же еще и Канарис крутился...

— Какой такой Канарис? — оживился Францевич. — Это этот, как его... Лобанович? Ну судимый который?

— Ну он же ж. Пока я лампочки смотрел, он заходил в общагу, выходил... Он жил там раньше.

Эдвардович нахмурился:

— Ну да, жил. Но Андрей нам про него не сказал ничего...

А майор уже загорелся:

— Так потому и не сказал! Ну жил он в общаге, он там как свой! Эдвардович, я вам говорил: он сука полная и на все способен! А вы его на работу взяли, квартиру дали в агрогородке, когда он сошелся с этой... шалавой! Поехали, мы его тепленьким возьмем!

Это, по-моему, был уже перебор.

— А надо нам, выпившим, ехать на ночь глядя брать «тепленького»?

В глазах майора я упал тут же, как осенний лист падает на первый осенний ледок. А Эдвардович, который, по-моему, уже проникся идеей ночного карательного рейда, отказаться от нее не мог. Ну и потом — почти полный фужер уже был выпит...

— А давай мы тебя в баню отвезем. Ты нас там подождешь...

Это был совсем перебор!

— Ехать — так вместе!

## И мы поехали

И мы поехали. Но вначале заскочили к Андрею:

— Скажи, этот, Лобанович, был у тебя сегодня?

— Канарис? Так он часто приходит, он же тут жил... Я его еще чаем напоил. У нас тут кухня.

Все стало понятно. Андрей отлучался на кухню, а подушка с деньгами оставалась в полном распоряжении Канариса.

...Агрогородок, один из полутора тысяч, разбросанных по всей Беларуси, располагался в соседней деревне, за 17 километров.

— Ну построили мы эти пять домиков по указу президента, — рассуждал Эдвардович, с большим трудом удерживая УАЗ на обледеневшем асфальте. — Наши люди, которые хозяева, туда не пошли: у них свои дома, в большинстве лучше этих. А эти заселили приезжие. Некоторые уже уволились, съехали...

— А Канарис — это кто?

— Мужик тут один, приезжий тоже... Пропил все, что мог. В могилу еще рано, в тюрьму пока не за что... Я его и взял — разнорабочим, как Андрея. Работать не хочет: все ходит, выглядывает, что украсть. Его и прозвали: Канарис! Теперь жалею, что взял...

Было уже 11 вечера, агрогородок встретил нас темными окнами. Но дом, у которого мы остановились, светился ярко, слышалась музыка — что-то пугачевско-киркоровское...

— Гуляют! — недобро прищурился майор. — Ну мы им погуляем!

И мимо маленького сарайчика — из тех, в которых корову приходится ставить по диагонали, — мы поднялись на крыльцо и без стука вошли в дом. В захламленной какими-то ящиками и одеждой прихожей было темно, но за полуоткрытой дверью в ярко освещенной комнате гремела музыка, сквозь которую пробивались голоса. Майор шагнул туда первым, мы с Эдвардовичем — за ним.

То, что обычно в доме называется «зал», было большой комнатой с обшарпанными обоями, тем более просторной, что обстановка состояла только из журнального столика, сплошь уставленного водочными бутылками и тарелками с закуской, на диво богатой: кроме традиционной картошки — мясная нарезка, рыба — копченая и жареная. Даже банка с икрой бросилась в глаза...

Вокруг столика — несколько табуреток с металлическими ножками и мягкими сиденьями. На них расположились мужчины и одна женщина — похоже, хозяйка дома, та самая, которая «шалава»: более чем не первой молодости, волосы цвета марганцовки, в более чем второй свежести домашнем халате, покрытом фантастически крупными цветами, произраставшими в оригинале, скорее всего, где-нибудь на далекой планете Сириус. Была она красненькая, веселая и слегка обалдевшая:

— Сам председатель к нам...

Кто-то убрал музыку, и стало тихо.

— Ну что, Канарис, принимай гостей, — бодро прервал паузу майор, обращаясь к широкоплечему мужику в сильно ношеном турецком свитере и с очень плохими зубами. — Богато гуляешь, вижу, водку пьешь, не «червивку»...

— А тебе, мент, что за дело, что я пью? На свои гуляю...

— Уверен, что на свои?

— А ты, ментяра, фильтруй базар, — внезапно рыкнул сидевший по другую сторону стола мужик в кожаной куртке. — Пришел в хату — не вы...ся!

— Вы, Канторович, не вмешивайтесь, тут серьезное дело, — это уже Эдвардович включился. — Вас оно пока не касается!

— Ты, бугор, на производстве будешь меня учить жить, а за столом я тебя на х... видал, понял, б...дь, начальник?

— А ты кто такой борзый? — медленно и жестко вступил майор. Его физиономия все еще была обманчиво добродушной. Но взгляд уже стал таким, почувствовав который даже Валя, майорская жена и опытный боец потребкооперации, уверенно замолкала и при первом удобном случае исчезала с глаз долой. — Что-то я тебя не помню. Документы покажи!

— Тебе документы? — поднимаясь, сказал мужик. — Будут тебе документы...

Встал. Ступил шаг... И вдруг очень резко, квалифицированно ударил правой. И попал — хорошо попал в голову! Майор отлетел назад и впечатался в стену, его фуражка самостоятельно покатилась по комнате. Мужик, обегая стол, кинулся добивать, но майор уже очухался и стоял в стойке: левая нога впереди, правая рука у подбородка. Полушубок на полу, а майор, до того вялый и несобранный, теперь весь как ежик: сплошные колючки! Мужик хорошо, правильно, скользящим шагом перемещался вправо. Майор изящно, как в полонезе, ступил назад... И тут же — джеб правой! Мужик улетел...

В это время Канарис кинулся к Эдвардовичу, но, наткнувшись по пути на меня, ударил — тоже в голову и тоже попал! Уж очень все получилось неожиданно! Но, видно, на тот момент выпил больше, чем мы с майором и председателем вместе взятые, — удар пришелся вскользь и был не такой резкий. Его шатнуло, он, удерживаясь на ногах, повернулся, и тут уж Бог велел достать его в «солнечное сплетение»! И я достал! А Эдвардович, моментально пришедший в себя, накрыл сверху по голове тяжелой табуреткой с металлическими ножками. Канарис лег... а Эдвардович испугался! Опустился на колени, пощупал голову Канариса. Потом потрогал обтянутое кожзаменителем сиденье с мягкой прокладкой и расслабился.

Тем временем майор за нашими спинами уверенно «вырубил» мужика в куртке и теперь доставал из внутреннего кармана документы. Остальные сидели тихо, демонстрируя, что они тут ни при чем. «Шалаву» трясло...

— Канарис деньги принес сегодня? У Андрея взял, в общаге? — ковал горячее железо майор.

«Шалава» молча кивнула.

— Неси, что осталось...

Она вышла в другую комнату и тут же вернулась с пачкой купюр.

Эдвардович посчитал — оказалось 600 с чем-то тысяч.

— Ладно, с этими двумя что будем делать?

— В район отвезем. Нападение на сотрудника милиции — мало им не покажется. «Участники банкета» будут свидетелями.

— Будут?

«Участники банкета» дружно закивали головами. И тут же подписали показания, которые майор на всякий случай решил взять на месте.

Сильно присмиревшие Канарис и человек в куртке разместились в специально для этого предназначенном отделении майорского УАЗа. Мы долго ехали в район, оформили задержание и только часам к 8 утра вышли из РУВД. Выяснилось, что мужик был подельником Канариса по давнему делу о грабеже, отсидел свое и приехал к старому дружку в агрогородок. А туда на работу брали всех...

## Чудо

Было утро, 31 декабря. Морозило, снег падал крупными хлопьями, и становилось ясно, что Новый год — вот он, скоро будет. А Дед Мороз в своем корпункте под Поставами уже набивал мешки подарками и ворчал на Снегурочку, чтобы она чего не забыла.

Мы стояли на крыльце РУВД — не спавшие, частично побитые. Правая скула у меня саднила и наливалась синим — удар был скользящий, но все равно не слабый. До вечера оно пройти не могло, объясняться с женой придется. Но особенно хорошо смотрелся майор: роскошный синячище под левым глазом продолжал наливаться соответствующими красками, вверху едва ли не выползая на лоб, а внизу спускаясь к подстриженным офицерским усам. Впрочем, его Валя, продавщица в местном сельпо, к таким вещам была привычна.

— Слушайте, — сказал майор, — а у нас есть еще деньги?

— А что?

— У меня тут хлопец знакомый, компьютерами торгует… ну не то чтобы новыми… Добавим кто сколько и купим Андрею. Новый год все же. Маленькое чудо такое…

Мы поняли, что майор прав. И достали бумажники.

На троих собрали 500 с лишним тысяч. Нашли того хлопца, он принес недурную «Тошибу» — совсем не новую. Но нестарый «Ворд» там был, и вообще нужные программы — тоже.

Мы поехали обратно и к 10 утра уже выгрузились у общаги. Андрей, которому сказали сидеть и ждать, именно так и поступил — сидел и ждал. По-моему, в той же позе: с поджатой правой ногой — рыжий и несчастный.

— Ну вот, Андрей, мы твои деньги нашли и решили сразу купить тебе ноутбук, — сказал Эдвардович.

Майор положил «Тошибу» на кровать. А я стоял и ждал, что будет.

А ничего и не было: Андрей встал, взял компьютер, поставил его на стол, открыл, грамотно подключил сетевой провод, потом нажал на сетевую кнопку… Экран ожил. Андрей не смотрел на нас — он подводил курсор к разным значкам, «кликал» и восторженно ждал, что откроется.

— Мой Сашка научил…— растроганно сказал Эдвардович.

Мы стояли за спиной у Андрея, а он не обращал на нас внимания. А чего мы, собственно, ждали — что он упадет на колени и начнет целовать нам руки?

И мы ушли. На улице майор сказал:

— А что, Эдвардович, баня нас ждет еще?

— Поехали, посмотрим, — сказал Эдвардович.

Мы позвонили женам и отключили мобильники. И поехали в баню. Пар был жаркий, накрытый стол ждал, только картошка остыла, и водка стала теплой. Но все равно это тоже было маленькое новогоднее чудо. И нам было хорошо.


Photo.bymedia.net

# Валерыю Шчукіну — *70!*

***Ягонае жыццё — як суцэльная барацьба. Прыклад маладым і галасны папрок старым. Усім баязліўцам, канфармістам і прыстасаванцам прысвячаецца. Легендарны змагар і праваабаронца Валерый Шчукін у OLD SCHOOL. Чытай радкі, а не тое, што паміж імі.***

Каб перамагчы страх, трэба з года ў год пераконваць сябе. Асабіста я страх перад начальствам, перад уладамі перамог толькі ў сорак гадоў. Таму я ніколі нікога не папракаю, бо ў маладосці таксама баяўся. Адсутнасць страху — гэта нажыўное, а не прыроджанае.

Адзінае, чаго трэба баяцца, — што ты памрэш і не паспееш усяго зрабіць.

Для таго каб заваяваць жанчыну, трэба зрабіцца для яе патрэбным, важным, незаменным. Напрыклад, я заваяваў сваю жонку тым, што адрамантаваў яе швейную машынку, у якой я, дарэчы, ні чорта не цяміў. Ну нічога — пасядзеў, падумаў, штосьці пакруціў і паправіў.

Калі адчуваеш, што чалавек цябе больш не кахае, трэба адысці ўбок. Ці патрэбны табе спадарожнік жыцця, які цябе не кахае?

Маладому чалавеку, які адчувае, што ён гей, але баіцца сказаць пра гэта бацькам і грамадскасці, я параіў бы ўсё ж такі не хаваць праўды. У гэтым проста няма сэнсу.

Перад тым як браць чарку, трэба добра падумаць пра свае найбліжэйшыя планы: ці не чакае штосьці важнае. Калі, напрыклад, мне трэба ісці на палітычную акцыю, я ўвогуле ні грама напярэдадні не вазьму. Бо п’яны чалавек і цвярозы прымаюць абсалютна розныя рашэнні. Ну а калі заўтра нічога важнага няма, то чаму б не адвесці душу.

Каб прачынацца ў добрым настроі, трэба заўсёды класціся спаць таксама ў гуморы.

Я не раю моладзі сёння з’язджаць з Беларусі. Калі ў цяперашняй крытычнай сітуацыі, у якой, як кажуць у войску, кожны штык лічыцца, з’едзеш, а нас застанецца меней, то хто будзе змагацца за свабоду і незалежнасць?

Я не разумею, што значыць няма шанцаў. Мяне як ваеннага вучылі, што я мушу змагацца да апошняга патрона, нават у безвыходнай сітуацыі, калі моц праціўніка пераўзыходзіць.

Дзяцей трэба заводзіць як мага раней. Я татам зрабіўся ў 22, дзядулем — у 43 гады, праўда, прадзедам — ужо ў 69. Дзеці не перашкаджаюць ніякай кар’еры, наадварот, у маладосці ў вас больш моцы.

Ты ж ведаеш, колькі часу займае твой макіяж, ну пачні ты збірацца не за паўгадзіны, а за гадзіну!

Кіроўцы мусяць папярэджваць адзін аднаго пра тое, што побач патруль ДАІ.

Калі ў кагосьці дэпрэсія, трэба выпіць сто пяцьдзясят грам — і ўся дэпрэсія пройдзе.



Калі пачуцці згаслі, трэба прыйсці і шчыра сказаць пра гэта чалавеку. Страусіная палітыка — для слабакоў.

Калі ведаеш, што можа ўзнікнуць стрэсавая сітуацыя, трэба пастарацца загадзя, як шахматыст, пралічыць у галаве ўсе магчымыя варыянты сваіх паводзінаў.

Для таго каб адчуць Бога, у царкву хадзіць неабавязкова.

Крыж трэба насіць пад адзеннем, ён жа нацельны, ён мае быць схаваны ад усіх.

Калі хочаш ісці служыць у войска — ідзі, не хочаш — не ідзі. Я супраць прымусовага прызыву. Бо прызыў у войска хлопцаў парушае гендарную роўнасць, гэта дыскрымінацыя мужчын паводле палавой прыкметы.

Калі чалавек хоча пачаць новае жыццё, яму трэба кардынальна змяніць род дзейнасці і не баяцца пераменаў.

*http://34mag.net*

